На ўрачысты банкет, апрача Манюшкі і Конскага, былі запрошаныя з мастацка-літаратурнага асяродзьдзя: аўтар "Нашых песьняў"- доктар Адам Панкевіч, які выдаў выбраныя вершы польскіх пісьменьнікаў...; аўтар вядомага ў свой час "Новага гістарычнага мэтаду"- Антон Ядзьвінскі; мастак вучань Рустэма,- Адам Шэмеш; караспандэнт варшаўскіх газэтаў-бэлетрысты Юльян Гарайн; Адам Гэрман; Трэстэр; піяніст і кампазытар, удзельнік мастацкага падарожжа Концкага і яго адміністратар-Людвіг Навіцкі; і урэшце скрыпач, вучань Концкага - Уладзіслаў Барташэвіч.

Ведама, што, апрача артыстаў і літаратара прысутнічалі таксама многія зь мінчан, як мужчыны так і жанчыны. Ушанаваньне заключалася ў тым, што гаспадар, які выступіў у асысьце трох дзяўчатаў, прыбраных па вясковаму, зь вянкамі й букетамі ў руках, выказаў павагу да Манюшкі й Концкага вершам, напісаным на беларускай мове. Верш пачынаўся ад слоў, якія вельмі дакладна траплялі ў тон народнай песьні".х)

Успаміны Плуга ня толькі ўзнаўляюць старонкі літаратурнага й музычнага жыцьця ў Менску ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя, але і дазваляюць выправіць адну недакладнасьць у гісторыі беларускай літаратуры. Да апошняга часу лічылася, што ў вершы Навума Прыгаворкі пад "трыма сокаламі" і "трыма дударамі" маюцца на ўвазе: Сыракомля, Концкі і Манюшка. Ды й сам Дунін-Марцінкевіч засьведчыў гэта падзагалоўкам: "На ўшанаваньне прыбыцьця ў горад Менск Апалінара Концкага, Уладзіслава Сыракомлі й Станіслава Манюшкі". Сьцьвярджалася, што Сыракомля таксама быў ў Менску ў часе выбараў у кастрычніку 1856 г. і нават адказаў на верш

---

х) Адам Плуг, Манюшка ў Менску. ТЫГОДНІК ІЛЮСТРОВАНЫ, 1896,19,374 (поль.)

Дуніна-Марцінкевіча тостам "Шчасьлівы той..." х), хоць на самай справе ў дзесяцітомным зборы твораў Сыракомлі 1872 году гэты тост датаваны чэрвенем 1855 г. (Сыракомля тады прыяздждаў у Менск дзеля збору матарыялаў да гісторыі гораду).

Аднак з працытаванага артыкулу Адама Плуга відаць, што на грамадзянскіх выбарах у Менску Сыракомлі ня было. А гэта значыць, не да яго зьвяртаўся Дунін-Марцінкевіч у "Вершы Навума Прыгаворкі". Гэтае меркаваньне пацьвярджаецца і адным не апублікованым дагэтуль лістом самога Сыракомлі. Зьвяртаючыся да мінчука Паўлы Матушэвіча, ён выказаў такую просьбу: "Занадта мяне непакоіць наш родны Менск, каб яго выбары, на якія я ня змог прыбыць (падкр. - А.М.), асталіся для мяне абыякавымі. Таму прашу цябе, каб ты апісаў мне іх падробна".хх)

Хто-ж тады быў трэйцім на тым вечары, і каму адрасаваны "Верш Навума Прыгаворкі"? Адказ на гэтае пытаньне даў сам Дунін-Марцінкевіч. У прадмове да "Літаратурных клопатаў", дзе гаворка ідзе пра тыя-ж выбары, ён пісаў, што на той урачыстасьці былі Манюшка, Концкі й сьпявак Адам Гэрман ххх). Урэшце Адам Плуг, які неўзабаве перакладаў "Верш Навума Прыгаворкі" на польскую мову, таксама сьцьвярджаў, што твор прысьвечаны Манюшцы, сьпеваку Гэрману і віялянчалісту Концкаму хххх).

---

х) С. Мэйхровіч, Нарысы па гісторыі беларускай літ. XIX в. Менск, 1959,112.
хх) ЦДАЛССР, ф. 1135, воп.3,с.28.
ххх) В.Дунін-Марцінкевіч, Збор твораў, М. 1958, 215.
хххх) Глос з Літвы пжэз аутора Клосы з родзіннэй нівы (поль.)М. 1859,169.

Выглядае, што Сыракомля запраўды зьбіраўся прыехаць у Менск, але не прыехаў. А Дунін-Марцінкевіч, які напісаў "Верш Навума Прыгаворкі" яшчэ да прыезду гасьцей, уключыў яго ў зборнік ("Дудаж бялорускі, чылі вшысткего потрошэ", 1857).

Тую ролю, якую Манюшка адыграў у разьвіцьці польскай музыкі, без перабольшаньня можна прыраўняць да ролі Міцькевіча ў польскай паэзіі. Абодва яны змагаліся за народнасьць мастацтва, абодва вымагалі, каб яно было праўдзівае, каб выяўляла вялікія нацыянальна-вызвольныя ідэі, абодва зьвярталіся да фальклёрных багацьцяў свайго літоўскага (г. зн. беларускага) народу. Манюшка браў ад народу музычныя скарбы і вяртаў іх яму ў апрацаваным выглядзе. Аднойчы кампазытар зьвярнуўся да беларускага паэта Яна Чачота з просьбай прыслаць вершаваныя тэксты. 23 сьнежня 1844 г. Чачот паслаў яму свае пераклады беларускіх народных песьняў. Некаторыя зь іх кампазытар памятаў яшчэ зь дзяцінства, і таму музыка пісалася хутка й лёгка. У выніку зьявіўся цыкль: "Песьні прынёманскіх вёсак". Сярод дзевятнаццаці твораў на запісы Чачота асабліва вызначаюцца "Кум і кума", "Папрадуха". Апрацоўваючы беларускую народную мэлёдыю, Манюшка дасягнуў у "Папрадусе" незвычайнай вобразнасьці.

У канцы 50-х і напачатку 60-х гг., калі Манюшка ўжо жыў у Варшаве, калі былі напісаны і славутая "Галька", і "Страшны двор", ён па-ранейшаму амаль кожны год па дарозе ў Радкаўшчыну, дзе быў яго бацька, заязджаў у Менск. У часе адной з паездак, у 1861 г., Манюшка пабываў у Каралішчавічах і з захапленьнем пісаў пра мясцовы арган, зроблены менскім майстрам Бяляўскім.

Менчане часта ўспаміналі пра свайго родзіча. Аляксандра Валіцкі пісаў у 1858 г.,

што Манюшка й Міладоўскі "былі да гэтага ў Літве (г. зн. Беларусі), як дзьве пальмы на вялізнай пустыні, пад ценем якіх магла знайсьці прытулак музыка, бо навокал бясплодныя пяскі. Цяпер Манюшка пакінуў нас..." х). У сваіх лістох кампазытар часта ўспамінаў пра Менск, пра Дуніна-Марцінкевіча. Так, аднойчы ён паведамляў жонку, што нейкі багаты "жартаўнік" прыдумаў адпомсьціць пісьменьніку за працэс у судзе і, ад'язджаючы, заказаў "пахавальны звон за супакой душы Марцінкевіча,а ў касьцеле купіў пакрывала для пакойнікаў і пахавальныя падсьвечнікі ды ўсю гэтую пакупку паслаў яму да хаты. Пачынаюць званіць у званы – ты ведаеш, што менскія званы ня любяць жартаваць і што мескім разявам толькі таго і трэба! І вось кожны пытае: па кім звоняць? Жабракі адказваюць, што памёр... Марцінкевіч, які жыве за губэрнатарскім садам. Вестка хутка праляцела па ўсім горадзе. І трэба-ж было здарыцца такой бядзе, што сам Марцінкевіч сустрэў людзей, якія нясьлі пакрывала і падсьвечнікі, і спытаў іх: каму нясуць? – Марцінкевічу. – Якому?... – Скандал!... паліцыя шукае віноўніка свавольства. Па ўсім горадзе шукаюць жартаўніка, а ягоны даўно і сьлед прапаў." Такія анэкдоцікі, – іранізуе Манюшка, – уносяць разнастайнасьць у жыцьцё мескага жыхарства. Яны і цікавыя й карысныя. Напэўна, Жулкоўскі (вядомы камэдыянт -А.М.) быў родам з гэтага места. А што датычыцца Вальтэра, то няма чаго й сумнявацца, што ён Мянчук. Ня ведаю, чаму Вальтэр лічыў сябе французам, калі ў Менску ледзь не паказваюць вуліцу, дзе ён нарадзіўся"..

З асаблівай чульлівасьцю ўспамінаў Манюшка пра родную Беларусь на схіле сваіх

х) "Рух музычны" 1858,49.

дзён, калі пачало здаваць сэрца. Зьнясіленны штодзённымі клопатамі, барацьбой з цэнзурай, засмучаны творчымі няўдачамі, ён нават марыў зусім вярнуцца ў Радкаўшчыну. Але 4 чэрвеня 1872 году кампазытар памёр.

Сьпякотным чэрвенскім днём Варшава праводзіла стваральніка польскай нацыянальнай опэры нашым суродзічам ў апошнюю дарогу. Ад Кракаўскага прадмесьця да Павёнзаўскіх могілак пахавальны абрад суправаджала 80 тысяч варшавякаў!

Прагучэла увэртура - і паход крануўся на могілкі. I вось ужо аб драўлянае века труны глуха застукалі грудкі зямлі, загучэў жалобны рэквіем. Над магілай вырасла гара пышных вянкоў. А побач невядомая рука паклала сьціплы букет сініх васількоў. Відаць іх прывезьлі здалёку, бо кветкі прывялі. На чорнай стужцы надпіс: "Станіславу Манюшцы, сыну беларускай зямлі. Сіратой плача яна над гэтай труною". "Памёр гэні, які заваяваў розумы й сэрцы" - пісаў ў жалобным нэкралёгу беларускі паэта Вінцэсь Каратынскі.

Манюшка памёр зы спакойным сумленьнем чалавека, які цалкам аддаў сябе вялікай справе. Ён стварыў многа - 7 опэраў, 5 апэрэтаў, 3 балеты, безьліч інструментальных і вакальных твораў. Напісаў 4 творы на словы Дуніна-Марцінкевіча і тым самым, па сутнасьці, пачаў і беларускую опэру.

Вярнуўшыся з Польшчы, я працягваў пошукі манюшкаўскіх апэрэтаў на словы Дуніна-Марцінкевіча. У Ленінградзе, у публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына, захавалася калекцыя Юсупава, аб якой калісьці гаварыў Мілер. Але ў картатэцы - амаль усе італьянскія творы. Расейскі магнат, відаць, пагарджаў усім сваім, славянскім... I тады зьявілася думка: а можа апэрэты так і

асталіся на Меншчыне? Можа разам зь іншымі творамі Дунін-Марцінкевіча трапілі яны ў рукі вядомага беларускага зьбіральніка А. Ельскага, які жыў у Замосьці? Калі гэта так, то далейшыя пошукі будуць нялёгкія – першая сусьветная вайна параскідала зборы Ельскага па ўсім сьвеце. Але пошукі трэба працягваць. І не паасобку, а аб'яднанымі сіламі літаратараў, гісторыкаў, музыказнаўцаў, краязнаўцаў. Марудная праца можа акупіцца знаходкамі, якія дапоўняць нашыя веды пра цікавую старонку ў гісторыі беларускай культуры, пра нашага выдатнага сурodзіча.

Адам Мальдзіс



Stanisłaŭ Maniuška ŭ časie Vilenskaha pobytu

## DA PYTAŃNIA PRA MIESCA PRANCISIA BAHUŠEVIČA Ŭ HISTORYI BIEŁARUSKAJ LITARATURY
Artykuł A. Adamoviča ŭ ZAPISACH 3,1964 h.

Pad hetkim nazovam źmieščany ŭ knižcy 3 ZAPISAŬ, što vydajecca ŭ Münchenie, artykuł Antona Adamoviča, jaki vyklikaje vialikija zaściarohi adnosna jahonaha źmiestu.

Anton Adamovič, chočučy vyjavić asablivaje miesca ŭ biełaruskaj mastackaj litaratury dla Pr. Bahuševiča, dy prypaminajučy sabie kolišnija vykazvańni svajho nastaŭnika Adama Babareki, zaniaŭsia peryjadyzacyjaj i acenkaj usiaje historyi našaj litaratury pavodla šablonu, jaki byccam vynikaje z vykazvańniaŭ jahonaha nastaŭnika dy supadaje z vykazvańniami niekatorych amerykanskich litaraturaviedaŭ, na jakich jon spasyłajecca.

Na sam pierš treba ścvierdzić, što aŭtar nazvanaha artykułu, zamiest vyjavić svaje sobskija pošuki na asnovie vyvučeńnia pomnikaŭ našaj litaratury pierad Bahuševičam dy ŭ časy Vialikaha Kniastva Litoŭskaha, ślepa trymajecca pohladaŭ svajho nastaŭnika, jaki: 1) sam nie vyvučaŭ hetaha peryjadu, što śćviardžaje sam A. Adamovič, dy nia moh ničoha skazać svaim vučniam, i 2), jaki siliŭsia razhladać biełaruskuju litaraturu (jakuju vykładaŭ) z marksistoŭskaha punktu hledžańnia.

A. Adamovič u poŭnaj miery zrabiŭ sobski skok panad svaim nastaŭnikam, byccam "dapaŭniajučy" jaho, kali hałasłoŭna vyznačyŭ svoj šablon dziela charaktarystyki biełaruskaj litaratury pierad Bahuševičam. Šablon hety nia tolki nie praŭdzivy, ale mocna škodny, bo jon pierakreślivaje isnavańnie našaj litaratury vielizarnaha histaryčnaha peryjadu dy skiroŭvaje čytača na toje biezdarožža, u jakoje pchaje samaja varožaja navuka.

Tolki "z Bahuševiča pačynajecca Ž y ć c i o

biełaruskaj litaratury"- paŭtaraje jon słovy svajho nastaŭnika, jak svaju dohmu. Usio raniejšaje - "słaviana-kiryłaŭskaja" litaratura (X-XIV vv.), "słaviana-ruskaja" ci "słaviana-rasiejskaja"(XIV-XVII vv.), "polska-krajovaja" z sublitaraturnymi adychodami ŭ biełaruskaj movie XVII-XIX vv. abo padobny rasiejski praces u vieku XIX - nia moža z poŭnym pravam pretendavać na hodnaść pracesu biełaruskaha", inakš kažučy biełaruskaj litaratury. "Ciapier-ža, - pradaŭžaje Adamovič,- ad hetaje admoŭnaj kanstancyi, naležycca pierajści da pazytyŭnaha kančalnaha abhruntavańnia, vyznačanaha Babarekam, a padtrymanaha nami Bahuševičavaha miesca ŭ historyi biełaruskaje litaratury!' Hetkaje "kančalnaje" abhruntavańnie abiacaje dać A. Adamovič u budučym artykule.

Zojmiemsia ciapier hruntoŭnaj analizaj niebiaśpiečnych vykazvańniaŭ A. Adamoviča. Vychadnym punktam razvažańniaŭ A. Adamoviča jość pryniataja im definicyja ad Babareki: "biełaruskaja litaratura" - heta BIEŁARUSKI LITARATURNY PRACES. A što takoje "litaraturny praces"? Na hetaje pytańnie nie daje jasnaha, jak patrebna dla vyznačeńnie definicyi, adkazu. A. Adamovič silicca prypomnić, što skazaŭ nastaŭnik Babareka: "litaratura jak pieratvareńnie mataryjalnaha ŭ idealnaje"; "paezija, jak ujaŭleńnie"; "tvor, jak źniaty praces zakonaŭ ruchu i byćcia materyi, a litaraturny praces u papiarečnym razrezie - jak praces tvareńnia-adtvareńnia (aŭtara-čytača-krytyka); litaraturny praces u paŭzdoŭžnym razrezie -jak źviazanaść i ciahłaść radu litaraturnych tvoraŭ (niama hetkaha pracesu - niama litaratury); u ahulnym sensie-pavodla etymalohii słova - zbor litaraŭ abo značkoŭ, što zamacoŭvajuć piśmova huki movy; dyk u ahulnym sensie litaratura-heta nasampierš mova, adno zamacovanaja ŭ litarach!'

Usie hetyja pajaśnieńni nie dajuć paniaćcia ani vytokaŭ litaratury, ani jaje dyferencyjacyi, ani jaje hramadzkaj roli, ani jaje składovych elementaŭ, jak movy, mastackich srodkaŭ i h.d.

I voś A. Adamovič nie daŭšy naležnaj definicyi, jak jon razumieje litaraturu j litaraturny praces, adrazu prystupaje da acenki litaratury našaha narodu ad pryniaćcia chryścijanstva...

Pavodla nas, da litaratury, jak piśmiennaj hramadzkaj źjavy, treba vychodzić z VUSNAJ NARODNAJ TVORČAŚCI. Niezaležna ad taho ci całaviek znaŭ piśmo ci nie, u hramadzie raźvivałasia i nahramadžvałasia narodnaja (ananimnaja) vusnaja tvorčaść roznych žanraŭ, jak apaviadańni, kazki, pieśni, prymaŭki, zahadki, abrady, byliny, histaryčnyja pierakazy i h. dalej. Ab žyvučaści hetaha pracesu my možam pierakanacca chacia-b z etnahrafičnych zapisaŭ, zroblenych u XIX i XX st.st. na našych ziemlach roznymi źbiralnikami. U hetym vielmi bahatym materyjale my znojdziem tvory z dachryścijanskaj pary dy z roznych peryjadaŭ historyi, jak i z sučasnaści. U krainach, dzie školnictva i knižnictva zamacavalisia hłybiej i raniej u narodzie, funkcyi VUSNAJ narodnaj tvorčaści pieraniała litaratura (piśmiennaść) užo imiennaja, nie ananimnaja .

Piśmienstva, jak zapis dumki (viedaŭ, vykazaŭ, pieražyvańniaŭ, uražańniaŭ, spaściarohaŭ, vyvadaŭ, imknieńniaŭ, vyabražeńniaŭ, latucieńniaŭ etc) čałavieka i stvaryła litaraturu, jak skarbnicu jaho dumki. Nahladnaj skarbnicaj piśmienstva jość knihaschovišča-biblijateki, dzie čałaviek pry tvoryvie novych vartaściaŭ moža vykarystać dumku inšych na praciahu stahodździaŭ.

Takim čynam piśmienstva abo litaratura ŭ ahulnym paniaćci abymaje ŭsiakija tvory: navukovyja, techničnyja, relihijnyja, histaryčnyja, mastackija, fantastyčnyja, školnyja, aśvietnyja, palityčnyja praŭnyja i h.d. A. Adamovič, jakbyccam maje na dumcy, kali kaža pra "litaraturny praces", mastackaje piśmienstva, ale adnacasna błytajecca ŭ ahulnych paniaćciach litaratury dy hetym zaciamniaje siabie i čytača. Adklikvańnie jaho na aŭtarytet amerykanskich litaraturaviedaŭ ničoha nia značyć, pakolki amerykanskija litaraturaviedy vychodziać

z inšych pazycyjaŭ, a pajmienna z pazycyjaŭ sučasnaj epochi, kali piśmienstva stałasia nieadłučnaj častkaj čałaviečaha prahresu dy mastackaja litaratura dziela narastańnia masavaha prytoku aŭtaraŭ, źviazanaja z novymi zakonami hramadzkaha ŭspryjmańnia. Pajmienna, pačynajučy ad kanca 18 vieku, na hramadzkuju dumku silna addziejničajuć idei novaha hramadzkaha paradku. Vidavočny čas dazreńnia (naśpieńnia) vialikich masaŭ haradzkoha nasielnictva (toje, što marksisty nazyvajuć "buržuaznym"), jakoje ŭźniało "revalucyju", kab źmianić staryja paniaćci hramadzkaha ładu. Sialanstva, jak klasa raściarušanaja, dy ŭ siłu hetaha nie majučaja mahčymaści praśviacicca dy vytvaryć svajoj intelihiency, zmušanaje było adstavać dy nia mieć istotnaha upłyvu na farmavańnie novaha hramadzkaha ładu. U hetym časie na padmohu nieaśviečanaha sialanstva ŭ našaj krainie vystupaje źbiadniełaja (šaračkovaja) šlachta, jakaja ŭ vialikaj miery pryśpiašaje praces praśviačeńnia ŭsiaho narodu. Usiaho hetaha nia bačyć A. Adamovič.

Pierš za ŭsio jon nie razumieje, što litaratura j jaje tvorčy praces jość vyjaŭleńniem dumak, bytu, zmahańnia, pracy, pieražyvańniaŭ NARODU nie zaležna ad movy i hramatyčnaj systemy, pryniatymi NARODAM. Takim čynam da litaratury j jejnaha pracesu treba padchodzić nie ad movy ci hramaci, ale ad aŭtarstva, ad tvarca jaje, ad jaje źmiestu, ad jaje nacyjanalnaha kalarytu, ad suhučnaści jaje z vobrazami, žyćciom, zmahańniami etc NARODU. Mova litaraturnaha pracesu i jaje hramatyčny vyhlad (ład) moža słužyć kryteryjam dziela vyznačeńnia dzialanak nacyjanalnaj litaratury, a nie samà słužyć za vyłučny pakaźnik litaratury ci USIAHO litaraturnaha pracesu.

Pavodla A. Adamoviča vyhladaje, što "histaryčny litaraturny praces byŭ pryniesieny na Biełaruś u kancy IX vieku chryścijanstvam u jahonym słaviana-kiryłaŭskim varyjancie (carkoŭna-słavianskim).

Ci b y ło tak? My viedajem, što piśmiennaść isnavała va ŭschodnich słavianaŭ daloka PIERAD pryniaćciem chryścijanstva. Ab hetym śviedčyć znachodka ŭ Smalensku hlinianaj pasudy z pačatku X v. z kiryličnym nadpisam "horuščna" (kiryličnymi litarami), a taksama takijaž napisy na praślicach XI v., na cehłach dy inšych vyrabach ramieśnickaj vytvorčaści. Dy daloka da aficyjalnaha pryniaćcia chryścijanstva (na pačatku IX v.) umovy pravadyroŭ uschodnia-słavianskich złučeńniaŭ z Bizancyjaj pisalisia i "ruskaj" movaj.

Z raspaŭsiudžańniem chryścijanstva na ŭschodnia-słavianskich ziemlach byli DŹVIE hramaci, a nie adna, jak piša A. Adamovič. Pajmienna "ruskaja" i "carkoŭna-słavianskaja". Pavodla ŽYĆCIA KIRYŁA ŭsich 23 viedamych śpiskaŭ (napisanaha ŭ kancy IX v. vučniami słavianskich apostałaŭ), Kiryła ŭ časie svaje Korsunskaj pajezdki ŭ 861 hodzie dastaŭ ad niejkaha "rusina" EVANELLA i PSAŁTYR "russkymi piśmieny pisano", dy navat sam navučyŭsia čytać hetyja knihi. Kali ŭžo ŭ tym časie było pierakładziena Evanella i Psałtyr na"ruskuju" movu dla carkoŭnaha karystańnia, - heta dovad, što nia tolki chryścijanstva na ŭschodnia-słavianskich ziemlach było zdaŭnych, ale i"ruskaja" piśmiennaść.

Takim čynam chryścijanstva hreckaj juryzdykcyi, tak zvanaj Kijaŭskaj Mitrapolii, nia było pieršaj krynicaj piśmiennaści na nazvanych ziemlach. Jano ŭviało ŭ pieršym peryjadzie carkoŭna-słavianščynu ŭ carkoŭnaje karystańnie, jak movu pryznanuju Carkvoj (pobač hreckaj i łacinskaj) dy niekatoruju carkoŭnuju litaraturu baŭharskaha i panonskaha pachodžańnia. Adnak adrazu ŭ sutyku dźviuch litaraturnych movaŭ: ruskaj i słavianskaj, vierch pačała brać mova ruskaja. Tamu adrazu piśmiennaść tak carkoŭnaja jak i śvieckaja Kijeŭskaj Mitrapolii stała nazyvacca nie "słavianskaj", a "ruskaj" a POVIEŚĆ MINUŁYCH LET uvažała za patrebnaje davodzić, što "słovienskyj jazyk i ruskyj odno jest".

U źviazku z hetym nielha pahadzicca z R. Jakabsonam, na jakoha paklikajecca A. Adamovič, byccam da kanca XI v. carkoŭna-słavianščyna "była adzinaj štandartaj movaj dla ŭsich Słavianaŭ". Heta abahulniajučy hruby šablon i tolki. Usie daśledniki pamiatnikaŭ "ruskaj" piśmiennaści X-XI st.st. adnadumna śćviardžajuć, što ŭ hetych pamiatnikach rezka vydzialajucca elementy narodnych hutarak uschodnich słavianaŭ, elementy, jakija ahulnikova pryniata nazyvać "ruskimi". Voźmiem dla prykładu "Ruskuju Praŭdu" Jarasłava z XI vieku. U joj my majem tak słoŭnik, jak i fanetyku nie "słavianskuju" u značeńni zachodnia-paŭdzionnaj słavianščyny, adkul była pryniataja niekatoraja litaraturnaja tvorčaść. Dla prykładu voś niekatoryja terminy: soŭd - razbor spravy; pravda - zbor pastanovaŭ; hołova - zabity čałaviek; Hołovnik - zabojca; istiec - chto dachodzić kryŭdy; obida - kryŭda, narušeńnie prava; moŭž - volny čałaviek; rab - niavolny; čeladź - słužba niapoŭnapraŭnych; hryuna - adzinka hrašovaha raźliku; tivun - kniaziaŭski uradnik; smierd - sielanin; potok - vyhnańnie, ssyłka; mytnik - chto upaŭnavažnieny da zboru myta, apłataŭ pry zahraničnym torhu i h.d.

Z fanetyčnych asablivaściaŭ, što vyroźnivaje "ruskuju" piśmiennaść ad "słavianščyny" pryduna jskaha pachodžańnia, možna nazvać 1) poŭnahałośsie: hołovà, horòch, zòłoto, dèrevo, hòrod etc. 2)słavianskaje pačatkavaje "je" pieradajecca jak "o": osień, odin, oziero etc. 3) słav. "ra, la" pieradajecca jak "ro, ło": rovnyj, łodja etc.4) rodny skłon nazoŭnikaŭ na -u: horochu, torhu, svodu; 5) časta užyvajucca "ruskija" złučniki: aže, ože, ože li, zamiest "słavianskich" ašče, ašče li i h.d.

Ale i ŭ hetaj "ruska-słavianskaj" movie nia było terytaryjalnaj adnalitaści ŭ samym rańnim peryjadzie. My bačym fanetyčna-hramatyčnyja i leksykalnyja adchileńni ci roźnicy ŭ piśmiennaści Noŭharadu, Pskova, Połaččyny, Smalenščy-

nie, Turaŭščynie, u Haliččynie. Tak naprykład u napisie na kryžy Aŭfrasini Połackaj (1161) vidavočnyja typičnyja asablivaści kryvickaj žyvoj movy, jak "akańnie": manastyry, akovanje; miakkija kančatki dziejasłovaŭ ciapier. času treciaj asoby: prokładajetj, jestj, izmieniajetjsia, presłušajetj i inš. U leksycy: piskup, prokładajetj, drevo, akovanje, złoto i sierebro, kamienje, izniesietjsia, prodati, otdati, presłušajetj, nie budi jemu, pomoščnik, boudtj, trojceju, ihoumienja etc.

Padobnyja typičnyja kryvickija asablivaści sustrakajucca ŭ "SŁOVACH" Kiryły Turaŭskaha, u "SŁOVIE O POŁKU IHOREVIE, u Supraśl. Zborniku i inš.

Anton Adamovič u acency litaraturnaj movy X-XIII (dy i nastupnych) stahodździaŭ čamuści stavicca admoŭna, kab pryznać hetuju movu za movu biełaruskaha (pavodla ciapieraśniaha nazoŭnictva) "litaraturnaha pracesu". Jon nazyvaje jaje "hibrydam", "gmatwaniną dvuch języków", inakš kažučy, što hety peryjad nie zasłuhoŭvaje na ŭvahu dziela acenki kulturnaj charaktarystyki našaj nacyi ŭ hłybokaj minuŭščynie. Ja dumaju, što hetkaje razumleńnie litaraturnaj movy našaj minuŭščyny jość poŭnaściu pamyłkovaje. Nielha aceńvać jaje z sučasnych pazycyjaŭ, kali litaraturnaja mova źjaŭlajecca adnačasna (ŭ siłu školnictva dy sučasnych srodkaŭ znosin, jak presa, radyjo, televizija, kino) i movaj razhavoračnaj (Umgangssprache). Heta ŭžo projdzienaja vialikaja i ciažkaja daroha. Litaraturnaja mova - heta mova štučnaja , mova bolšych plamiennych arhanizmaŭ, złučanych u adnu całaść dziaržaŭnaj arhanizacyjaj. Najbolš jarkim vyjavam štučnaści litaraturnaj movy moža być prykład litaraturnaj movy Kitajskaj dziaržavy, jakaja abjadnoŭvaje 20 roznych movaŭ. Tamu što kitajskaja piśmiennaść hruntujecca nie na fanetyčnaj symbolicy hukaŭ, ale na symbaličnaj hraficy paniaćciaŭ, takim čynam kitajskaja litaraturnaja mova jość zrazumiełaja dla ŭsiaje krainy. U indaeŭra-

pejskich movach takich vialikich raźbiežnaściaŭ niama, tym nia mieaš dyjalektyčnyja rożnicy byvajuć vialikija, u vyniku čaho narmalnaje razumleńnie adnych pravincyjaŭ dziaržavy druhimi napatykaje na značnyja trudnaści. Typovym prykładam takich znosin moža być Niamieččyna. Litaturnaja mova t.zv."Hoch Deutsch" nia jość zrazumiełaj dla mnohich pravincyjaŭ niamieckaj dziaržavy, jakija karystajucca svajoj pravincyjalnaj movaj. Słavianskija narody takich trudnaściaŭ nia majuć. Movy (možna ich nazvać słavianskimi dyjalektami) ich pavodla ahulnaj leksyki i fanetyčna-hramatyčnaj dyferencyjacyi nie pradstaŭlajuć tak vialikich rożnicaŭ, kab nielha było zrazumieć adzin adnaho. Takim čynam litaraturnaja mova ruskaja, jak złučeńnie movy ruskaj i słavianskaj, była zrazumiełaj dla našaha narodu, a, što za hetym idzie, jana vykonvała rolu kulturnaha prahresu. I tamu akcyja Aŭfrasini Połackaj dzieła stvareńnia kryvickaha kulturnaha centru z svaimi śviataściami i svaim knihazboram, nia tolki zasłuhoŭvaje na uvahu, ale na padkreśleńnie, što naš narod imknuŭsia być niezaležnym dy samastojnym.Niezaležnym i samastojnym byŭ i litaraturny praces u kryvickaj Dziaržavie.

Z druhoha boku ŭ tyja časy "litaraturnaja mova" była pasiarednikam miž adukavanymi ludźmi, jakija svaje viedy pieradavali nieaśviečanym vusna dy ŭ žyvoj narodnaj movie. Vusnaja znoŭ tvorčaść narodu uvodziłasia ŭ litaraturu, jaje bahaciła, rabiła ahulna-narodnaj. Tak naprykł. u POVIEŚCI MIN. LET mnoha zapisana uryŭkaŭ kryvickaj narodnaj tvorčaści, jak byccam histaryčnych faktaŭ. Voźmiem pad 6500 hodam apaviadańnie ab pajadynku Kiryły Kažamiaki ź siłačom piečynieham. ..."I prijecha kniaź Piečenieżskyj k rekie, vozva Vołodimiera i reče jemu: "Vypusti ty svoj muž, a ja svoj, da sia boreta. Da aśče tvoj muž udarit̆j moim, da nie vojujem za try leta..." (źviarnuć tre uvahu, što apovieść była vieršavanaj). I voś da Ŭła-

dzimira źjaviŭsia "jedin star muž" dy zaprapanavaŭ dla pajedynku svajho syna Kiryłu Kažamiaku. Dzieła spraŭdžańnia jahonaj siły na jaho napuścili rassaleŀaha ahromnaha byka: "I pobieže byk mimo i, pochvati byka rukoju za bok, i vynia kožju s miasy, jeliko jemu ruka zaja". Paśla Kiryła Kažamiaka pieramahaje taho piačynieha, a ich vojska ŭciače ŭ panicy. Što heta narodnaje apaviadańnie, śćviardžaje sam aŭtar POVIEŚCI, kažučy, što na miescy pajedynku byŭ zbudovany Pierejasłavl: "zanie piereja słavu otrok ot". Šejn (Mat. dla izuč. byta i jazyka russk. nas. siev.zap. kraja, II,c.I,1893) zapisaŭ varyjant narodnaj apovieści ab Kiryle Kažamiaku ŭ Mahileŭščynie, jaki rożnicca ad letapisnaha, dzie Kiryła Kažamiaka zmahajecca ź źmiejam, jaki chapaŭ u Kijevie dzieci.

Da kryvickich bylinnych apovieściaŭ, jak krynicy, z jakoj karystaŭsia kijeŭski letapisiec, jość apaviadańni ab kryvičancy kniahini Volzie i baraćbie Dzieraŭlanaŭ z Kijevam; ab Ŭsiesłavie Čaradzieju, ab Połacku, Rahniedzie, ab bitvie na race Niamizie i inš.

A ci mała viedamych pisanych apovieściaŭ ź pieradlitoŭskaha peryjadu našaj litaratury, dzie ŭ paetyčnaj chvormie pradstaŭlenyja hieroi-kryvičy i ich učynki? Apriača ŭsim viedamaha SŁOVA ab PAŁKU IHARA - litaraturnaha šedeŭru 12 vieku biełaruskaje mastackaje litaratury- nazaviem apovieść ab Merkurym Smalenskim, "Skazanije o borbie s Batyjem", "Povieść o Śviatochnie", "ŽYĆCIE BARYSA i HLEBA", "ŽYĆCIE śv. EŬFRASINI POŁACKAJ" tvory Kiryły Tur.

Jak bačym, užo ŭ paru kryvickaj Połackaj Dziaržavy litaratura (chaj sabie nie ŭ čystaj narodnaj movie, ale zrazumiełaj u supraćstaŭleńni da łaciny na Zachodzie) ciesna była źviazanaja z narodnaj vusnaj tvorčaściaj, z svajoj krainaj dy svaimi hierojami dy vyražała narodny byt i narodnyja imknieńni. Inakš kažučy - była hramadzkaj funkcyjaj narodu, žyvym adlustravańniem hramadzkaha

pracesu. Nie razumiejučy dziaržaŭna-hramadzkaha pracesu kryvickaj pary, ciesnaj suviazi piśmiennaści z VUSNAJ NARODNAJ TVORČAŚCIU, A. Adamovič stavicca admoŭna, kab ličyć viedamyja tvory i frahmenty (mnohija tvory zahinuli, ci nia vyjaŭlenyja) za pakaźniki našaj litaratury. Jon piša: "Z usiaho samo saboj zrazumieła, što uvažać heny histaryčna pieršy litaraturny praces na Biełarusi za biełaruski nie davodzicca". Dalej jon tolki, jak byccam zbajaŭšysia samoha siabie, starajecca źmiakčyć im skazanaje, radaj, što litaraturu hetaha peryjadu treba pakinuć (za Hareckim) u padručnikach da historyi biełaruskaj litaratury, bo "jana nie mahła praminuć biaśśledna dla dalejšaje historyi".

Nie zrazumieŭšy "litaraturnaha pracesu" u kryvickuju paru, nia moža Adamovič zrazumieć taho-ž pracesu i ŭ paru litoŭskuju. Jon piša jašče bolšyja niedarečnaści adnosna hetaha peryjadu:

"Starabiełaruskaja mova (čamu raptam "starabiełaruskaja", kali jon raniej nazvaŭ jaje "staracarkoŭnasłavianskaj", "słaviana-kiryłaŭskaj"?) staŭšysia pad toj-ža čas (V.K.L.-V.P.) movaj uradavaj, dziaržaŭnaj, - litaraturnaj movaj, movaj litaraturnaha pracesu adnak nie stajecca, u jakaści apošniaje praktykujecca, paŭstały padobna da taho česka-polskaha hibrydu, "gmatwaniny dwujęzykowej", hibryd carkoŭnasłavianska-biełaruski. Hibryd heny časam u niekatorych sučaśnikaŭ dastaje trapnaha nazovu "słaviana-ruskaha" (ato nat i "słaviana-rasiejskaha"), i ŭvieś litaraturny praces henych časoŭ, až pakul nie zamiraje jon zusim dzieś pad siaredzinu vieku XVII, najlepš było-b zvać "słaviana-ruskim".

Dalej A. Adamovič udakładniaje svajo razumleńnie litaraturnaj movy i litaratury litoŭskaha peryjadu hetak:

"Heta ŭžo kudy bolš biełaruski litaraturny praces, čymsia jahony papiarednik "słaviana-kiryłaŭski", asabliva ŭ moŭnym dačynieńni, ale j

tutaka zastajecca jašče i zhadanaja supolnaść z Ukrainaju, i haloŭnaje - aryjentacyja na čytača nia tolki biełaruskaha, plus ukrainski, ale jašče i maskoŭskaha navierch, jak na takoha-ž "ruskaha" u relihijna-vyznavalnym i šyrej cyvilizacyjnym sensie".

U toj čas, kali mnohija (čužyja i svaje) daśledniki, u pieršuju čarhu movaviedy (Sopikov, Kojałovič, Linde, Hreč, Moraczewski, Karski, Dal, Doŭnar-Zapolski, Pičeta, Łappo, Pypin, Vładimirov, Daniłovič, Karłovič, Brueckner, Lehr-Spławinski, Jakóbowski, Chodynicki, Łastoŭski i inš.) davodzili i davodziać, što publičnaja j litaraturnaja mova V.K.L. była biełaruskaj (pavodla ciapierašniaj terminalohii) to A. Adamovič z lohkaj ruki nazyvaje jaje "hibrydam", "słaviana-ruskaj", a ŭ najlepšym razie "słaviana-biełaruska-ukrainska-rasiejskaj", dy admaŭlaje bahataj tahačasnaj našaj litaratury zvacca "biełaruskim pracesam".

Takim čynam vykazvańni daślednikaŭ ab "załatym vieku" našaj litaratury XV-XVII st.st. traplajuć u Adamovičavuju nehacyju.

Ci možna hetuju "nehacyju" brać pavažna? My ŭžo raniej padkreślili, što A. Adamovič padychodzić da acenki minuŭščyny pamyłkova, z sučasnych pazycyjaŭ, dy nie razumieje tak moŭnaha, litaraturnaha i histaryčna-kulturnaha pracesu. Vialikaje Kniastva Litoŭskaje jak dziaržaŭny tvor adnaho z našych plamionaŭ LITVY ŭ ciesnym sajuzie z reštaj našych plamionaŭ XIII-XVIII st.st. było naturalnym pradaŭžeńniem histaryčna-kulturnaha pracesu z raniejšaha peryjadu z "słaviana-ruskaj" litaraturnaj movaj, jakaja ŭ 12-13 st.st. amal vyzbyłasia elementaŭ "carkoŭnasłavianščyny" ŭ karyść "ruskaj" movy dy asablivaściaŭ žyvoj kryvickaj movy (movu hetuju nazyvali ŭ Maskoŭščynie "litoŭskaj"). Prykładami hetkaj "ruskaj"

movy na pačatku XIII st. mohuć być hramaty Smalenska (1229), Połacka i Viciebska z Ryhaj i Hockim bieraham (1264-1300) a taksama Smalenskaja hramata Raścisłava z 1150 h., u jakoj vyrazna nahladajecca (ŭ paraŭnani z padobnymi hramatami z Noŭharadu, Kijeva i Suzdalščyny) praces ačyščeńnia ad carkoŭnasłavianščyny ŭ karyść"ruskaj" movy z uvodžańniem kryvickich elementaŭ, jak naprykład: "kromie prodažy i kromie viry i kromie poludja...płatitj kto čto moha.". i inš.

Na praciahu 14 st. mova LITVY (jak całaści usich biełaruskich ziamiel) u dziaržaŭnych aktach ačyściłasia ad "słaviaščyny", a "ruščyna" ŭ vialikim pracencie padmienienaja była žyvoj narodnaj movaj. Ab hetym my možam mieć ujaŭleńnie čytajučy dakumanty kanca 14 i pačatku 15 stahodździaŭ. Tak u hramacie Smalenskaha kniazia Juraha Śviatasłaviča (17 vier.1386) čytajem:

"My, Juryj Śviatosłavič, kniaź vielikij smolenskij, dajem viedomo, chto koli siu hramotu viditj albo słyšitj, s Vołodisłavom, božjeju miłościu s korolem polskim, litovskim i ruskim, i inych zieml hospodarem, tak jeśmo u dokončanji, u pravdzie i u chresnym celovanji, kak že jeśmj niałsia i dokončał s bratom, so kniaziem s vielikim Skirihajłom.".

Tradycyjny pravapis prysłaniaje vymovu paasobnych hałosnych. Adnak častyja pamyłki na "akańnie" ćviordyja hałosnyja paśla R, Š,Č, dajuć asnovu dumać, što nia było vialikaj roźnicy miž narodnaj a litaraturnaj movaj. Cikavyja dadzienyja ŭ hetym pytańni daje A.M.Bułyka (Adlustravańnie vymaŭleńnia ŭ starabiełaruskaj arfahrafii, VIEŚCI ANBSSR, Seryja hram. navuk, 1, Miensk,1966). Jon piša:

"...Arfahrafija starasłavianskaj movy hruntavałasia na fanetyčnym pryncypie...adnak užo ŭ peryjad pieršych stararuskich pomnikaŭ jany nie adpaviadali poŭnasciu fanetycy stararuskaj movy. U dalejšym adpaviednaść heta što raz bolš parušałasia, kali sutyknulisia z tradycyjnym pravapisam movy paasobnych uschodnia-słavianskich narodaŭ... Pieršapačatkova tradycyjny pravapis palahčaŭ praces raźvićcia piśmiennaści. Adnak pastupova jon

pacaŭ tarmazić raźviccio arfahrafii, pahłyblajučy nieadpaviednaść pamiž žyvym vymaŭleńniem a kanservatyŭnym piśmom. Niepaźbiežnym vynikam hetaha razryvu pamiž vymaŭleńniem i napisańniem źjavilisia pamyłki i apiski, jakija ź ciaham času sustrakalisia ŭsio čaściej. U starabiełaruskaj piśmiennaści faktyčna prajaviłasia tendencyja da fanetyzacyi pravapisu pry pieradačy takich važniejšych rys biełaruskaj fanetyki, jak pierachod V u U, zaćviardzieńnie šypiačych, C i R i inš. Razam z tym mnohija źjavy žyvoj movy (naprykład, dziekańnie j ciekańnie, pierachod Ł u Ŭ, akańnie, padaŭžeńnie zyčnych) nie adlustroŭvalisia zusim u bolšaści pomnikaŭ abo adlustroŭvalisia nadzvyčaj słaba. U suviazi z hetym razhlad starabiełaruskaj pravapisnaj systemy metazhodna pravodzić, padzialiŭšy ŭsie fanetyčnyja asablivaści na dźvie hrupy: a) asablivaści, jakija ŭ pieravažnaj bolšaści vypadkaŭ śviadoma adznačalisia starabiełaruskim pravapisam i b) asablivaści, adlustravańnie jakich adbyvałasia tolki sparadyčna abo adsutničyła zusim.

Adlustravańnie pierachodu V i U u Ŭ. Užo ŭ Smalenskaj hramacie 1229 h. majucca napisańni nakstałt ǒuzdumal, ǒuziati, ǒu rizie. Huk Ŭ, jaki źjaŭlaŭsia na miescy V pierad słabym redukavanym, na piśmie abaznačaŭsia zvyčajna litarami ǑU, U, ѹ, bo ŭ starabiełaruskaj hraficy nia było asobnaj hrafemy na abaznačeńnie Ŭ nieskładovaha. Naprykład u pomnikach XIV-XVI vv. adznačajucca napisańni: mieži ǒusimi, ǒu Połocku, u Varšavie, ѹ Vilni; Tut treba adznačyć, što Vb (Bb) zamianiałasia na UV: ǒuv ozieriśče (Hramata 1337); ѹv oknie, ѹv okovy (Biblija Skaryny); ѹv opiece, ѹv osień (Statut 1566) i h.d.

Adlustravańnie zaćviardzietych R, Š, Č, C, Ž, U Smalenskaj hram. 1229: dołžon, žonoju, razrušon; U pomnikach XV v. sustrakajucca napisańni: dryžača, žona, žyły, žyto, užyvajuć, skažy, našy, fal-

šyvyje, vołočyti, ličyti, ničoho, čotyry, šlachtičy; v ruce, v całosti, na ulicy, serco, cybula i inš.

Akańnie. U pomnikach XV-XVI stst. sustrakajem: vremia, zimniaje, vremiana, Harasim, zdarovje, karoju dreva, małanja, na darozie, na nahach, prymnažati, sienažati, radastj, s taboju, tahdy i inš. Časta vystupaje błytańnie ŭ napisańni A i O, jak vynik raźbiežnaści miž vymovaj a napisańniem: akijan - okijan; aleksiej - oleksiej; ałtar - ołtar; bałvan - bołvan, vyhaniati - vyhoniati, dremata - dremota, zastavił - zostavił; satona - sotona; starana i storona i inš. Siudy treba adnieści i hipernarmalizmy, kali pisar nia viedaje jak pravilna napisać, a baicca pieradać akańnie žyvoj movy na piśmie, piša O zamiest A: hronica, doleko; kozati; korańje, nakozańje; podovati; raspoliti, sopohy; sproviedlivostj i inš.

Pierachod Ł u Ŭ. Najbolš časta ułaścivy dziejasłovam prošłaha času mužč.rodu adz. liku. U nieskładovaje zamiest Ł u pomnikach časta pieradajecca cieraz V dziela adsutnaści hrafičnych srodkaŭ: "a kak usłyšav kniaź..."(Vilenski let.) "poranivsia (Vil. zb. nr262) aby jeś dolho živ na ziemli (Kat. Budnaha) "tohdy Isus posłav" (Ev. Ciap.), "vybravsia v dorohu"(Chranahraf)i inš. Časami U abaznačajecca litaraj Ł, vyniesianaj jak "tytła": "vziałšy","obiernułšy", "utvoriłšy" i h.d.

Dziekańnie i ciekańnie. Karski śćviardžaje ŭ dakumancie z 1409 h. dziekańnie ŭ słovie "ludzi". U dak. XVI-XVII vv. sustrajecca: "vyciesał","ociec", "sieć", "u rocie", "siedzić" i inš.

Padaŭžeńnie zyčnych. Asablivaści hetyja sustrakajucca ŭ XV st. (Karski) i pieradajucca rozna: a) dieržanie, zabranie; b) viesielje, jednanje; c) kochanije, pośmievanije; d) zbaviennie, kamiennie; e) opoviedanie, soznanie.

Takim paradkam na mnohich u tym liku i na Ada-

movića admoŭna dzieić tradycyjny"ruski" pravapis tekstaŭ peryjadu litoŭskaha. Dziela hetaha pravapisu piśmo litaraturnaj movy i nazyvałasia "ruskim" na praciahu ŭsiaho času isnavańnia V.K.L. Pakolki Ukraina da 1569 h. była paduładnaj Litvie, dyk i na Ukrainie była taja-ž mova, što ŭ Litvie, heta jośc mova starabiełaruskaja, jak litaraturnaja. Dakładniej jaje možna nazvać movaj kryvickaj ź niekatorymi astatkami "ruskaj" litaraturnaj movy, vyłažanaj tradycyjnym "ruskim" pravapisam.

Praces "biełarusizacyi" movy V.K.L. asabliva adbyŭsia ŭ 16-17 st.st. U hetym peryjadzie "carkoŭnasłavianščyna" ŭžo mała była zrazumiełaj navat tahačasnaj intelihiencyjaj, dziela čaho paŭstała patreba vydavańnia słoŭnikaŭ dla zrazumleńnia terminaŭ "słavianskich" i "ruskich". Dr. Pranciś Skaryna pierakładaje i vydaje drukam BIBLIJU na tahačasnuju litaraturnuju movu (15 st.), dadaje da ŭsich knihaŭ pavučalnyja ŭstupy i paślasłovy ŭ movie kancylaryi V.K.L. pačatku 16 st. dy niezrazumiełyja słovy pajaśniaje "na bociech" (na paloch), dajučy pačatki biełaruskaj leksykahrafii. Paźniej raspracujuć šyrej biełaruskuju leksykahrafiju L. Zizani (1596), Pamva Bierynda (1627) i inš.

Pierakład i druk BIBLII mieŭ ahramadnaje kulturna-vychavaŭčaje značeńnie dla ŭsiaho narodu. Sam Skaryna razumieŭ heta, pišučy: "U knihach Biblii ponieže nietoliko Daktorovie a ludzie učonyje u nich razumiejuć. No usiakij čałaviek prostoj i pospalityj... U siej knizie usie pryrožanyje mudraści začało iskoniec, Boh usiedzieržyciel paznavan byvaješ. U siej knizie usie zakony j prava, imi že ludzie na ziamli spravavacisia imajuć papisany suć. U siej knizie usi lekarstva dušeŭnyje i cialesnyje zupolnie znajdziešy. Tu(t) naučennie filazofii dobranraunaje jako lubicie Boha dla samoha siabie, i bližniaho dla Boha imamy. Tu(t) prava usiaha sabrannia ludzkoha i usiakaho hrada ježe vieraju sajedzinienniem łaski izkoda-

ju paspalitaje dobraje pamnožana byvaješ. Tu(t) na vučennie siedmi nauk vyzvolenych dastatočnie. Choščešy umieci hramatyku ili parusky havoračy Hramatu aže dobra češci (čytać) i movici vučyć, znajdziešy u zupolnaj Biblii psałtyru, čci (čytaj)jaje. Paklicisia lubić razumieci Łoiku (lohiku), jana že vučyć zdovadam razaznaci praŭdu ad škody. Čci knihu śviatoha Iova, ili pasłannia śviatoha apostała Paŭła. Aščeliže pamyślišy umieci Rytoryku ježe ješć Krasamoŭnaść, čci knihi Salamonavy... Vaschoščeš-li pak vučyciesia Muzyki pato ješć Pieŭničy, Pramnožastvo scichoŭ i pieśniej śviatych, pausiej knizie siej znojdziešy. Lubolici ješć umieci Aryfmietyku, ježe vokratce a nieomylnie ščytaci vučyć. Čaćviertoj knihi Majsievaj často čci. Pakliže imaše prad vačymo navuku Hieometryju, ježe paruski skazujetsia Ziemlamierennie, čci knihi Iisusa Nauvina. Jeśli Astranomii ili źviezdočeci, nojdzieš napočatku knihi sije o satvorenni sołnieca i miesiaca i źviezd, najdzieš vo Isusie Nauvinie, jako stajało sołnce na jednom mieście za cełyj dzień. Znojdzieš va knihach Carstv... Ašče li že Kachańnie imaš viedaci a vajennych a o batatyrskich dzielech čci knihu sudziej, ili knihu Machaviejeŭ. Boleje i spraviadlivieje u nich znojdzieš nieželi va aleksandryi, ili va troji".

Biblija, jak bačym, uvažałasia Skarynoj (dyj humanistami) za krynicu ŭsich tahačasnych viedaŭ, dy sapraŭdy litaraturna-vychavaŭčaja rola Biblii była (i jošč) ahramadnaj. I ŭ našyja časy najbolš papularnaj knihaj na śviecie z najbolšym tyražom vydańniaŭ jošč BIBLIJA. I tamu naša litaratura litoŭskaha peryjadu moža hanarycca svaim rańnim pierakładam BIBLII (1517-1519) na starabiełaruskuju movu, zrazumiełuju dla narodu. Skaryna ŭ svaim pierakładzie uličyŭ histaryčny praces (čaho nie razumieje A. Adamovič), pajmienna viedamuju kanservatyŭnaść pravasłaŭja, pavodla jakoha mova liturhičnaja jošč adnoj z nieparušalnych carkoŭnych śviataściaŭ (i ciapier tak dumajuć mnohija carkoŭ-

uniki) dyk jaje nielha radykalna zamianić movaj narodnaj (što zachodniki nazyvajuć linqua vernacula), tamu jon u svaim pierakładzie Biblii trymajecca movy 14-15 st.st., movy litaraturnaj ruskaj (tak Skaryna i nazyvaje svoj pierakład:"Biblija ruska"), ačyščanaj ad niezrazumiełaj carkoŭnasłavianščyny dy z šmatlikimi (aściarožnymi dy niezaŭvažalnymi) elementami narastajučaj u litaraturnym pracesie kryvickaj narodnaj movy. Rolu spakojnaha pierachodu na litaraturnuju movu jaho času (Skaryny) mieli vykanać pradmovy i paślasłoŭji dy pajaśnieńni "na bociech". Što heta była za mova pierakładu Biblii Skaryny ŭ samym "biblijnym tekście" varta dać uryvak z Knihi Isusa syna Siracha, dzie majucca pavučalnyja afaryzmy. (Uvaha: zachoŭvajem pravapis Skaryny)

"Kto čtitъ otca svojeho, siej budietъ imieti potiešenije v syniech svoich.

Za pravdu vojuj jako za dušu svoju, i daže do smierti bijsia pravdy radi.

Nie byvaj vomiesto prijatiela nieprijatielem bližniemu tvojemu.

Nie hledi na ženu mnohochtivuju aby nie upał jesi v siła jeja.

Otvrati lice svoje ot ženy preukrašannoje, i nie smotry na krasu ženy čužeje.

Krasy bo diela ženskoje mnozi pohyboša.

Nie otpuščaj druha svojeho staroho, novyi ubo druh nie budiet rovien jemu.

Vino novoje druh novyj, niechaj sia ustarjajet i vosłastъ napijesisia jeho.

Da niepolubitsia tobie krivda niespraviedlivych.

Car niemudryj pohubit ludi svoja, hrady že razmnožatsia razumom mudrych.

Car dnieś jest i zautra (sic) umrtъ.

Nad srebralubča niet horšeho na švietie.

Začało bo vsiakoho hrecha jestъ hordostъ.

Kto dotknietsia smoły, zmažetsia ot nieja, i kto živiet s hordym oblecisia v hordostъ. "

My dumajem, što hetyja prykłady pierakonvajuć čytača, jak umieła Skaryna ŭstaŭlaje ŭ "ruskuju"

movu svajho pierakładu kryvickija (biełaruskija) słovy. Asablivuju uvahu źviartajuć Skaraynaŭskija pierakłady "Pieśni pieśniaŭ Salamona", dzie jon vyjaŭlaje vysokija paetyčnyja struny:

"Pocełuj mia pocałovanijem ust svoich jako lepšaja sutj miłosti tvoja nad vino...

Lubyj moj biełyj i rumianyj, izbrannyj ot tysiačej. Hłava jeho złato najlepšaje:...Oni jeho jako Hołubice nad potoki, vod, iže mlekom izmyty sutj. I siedajuščije voźle prudov prevolnych. Lice jeho ako hrjady dobrovonnych rečej nasažennych od Apotiekarev. Usta jeho lilije kapliuščie Mirru izbrannuju...

"Sie ty kol krasna jeś pryjatielko moja, sie ty kol krasna jeś. Očy tvoje jako hołubice, kromie toho čto vnutri skrito jestj: Vłasy tvoje jako stado koz, ježe vychodziat zhory Hałaład.Zuby tvoje jako stada oviec postriženych, ježe vystupili iz kupała. Vsi imiejušče podvoju jahnietok, i jałovoje niestj posredi nich. Jako zavivanije červienoje usta tvoja. I mołvienije tvoje sładko...Dvie piersi tvoje jako dva mładych kozielca bliziency sierny, oniže pasutsia posredi ćvietiem!".. i h.d.

Na prykładzie Judyty Skaryna vučyć vobraznymi litaraturnymi prykładami lubić svaju Krainu i joj vierna służyć:

"Ponieže ot prirożenija Zvieri chodiaščije u pustyni znajutj jamy svoja. Pticy letajuščyje po vozduchu viedajutj hniezda svoja. Ryby pływajuščyje po morju i u rekach čujutj viry svoja.Pčeły i tym podobnaja boroniatj uljeu svoich. Takož i ludi ihdie zrodilisia i uskormleny sutj pobozie k tomu miestu vielikuju łasku imajutj. Protož i sija vdovica Iudif dla miesta rożenija svojeho, vydała jestj život svoj na niebiezpiečenstvo. No Hospodj Boh dla dobroho umysłu jeja pomoh jej, jako niepobiedimoho ot ludiej pobiedił a..."@

---

@ Pavodla pravapisu Skaryny. Čytać treba pavodla narodnaj vymovy: "Panieža at pryraženńia

U pradmovie da KNIHI SUDŹDZIAŬ Skaryna vučyć, što ŭsie ludзi roŭnyja pierad Boham i braty ŭ Chryście, što Boh stvaryŭ ludziej roŭnymi i daŭ im spraviadlivych sudździaŭ: "Daže da naraženńia słova Božyja...dvanadziesiać sudziej synoŭ Izrailevych nie spravavali suć ich jako Cary ili ułaścicieli vyšniji siłu imiejuščyja nad nimi. No jako roŭny i tavàryščy, Radu im dajučy..."(pierakaz fanetyčny).

Miascami Skaryna ŭ BIBLII zusim panarodnamu pierakładaje, uvodziačy žyvuju movu. Voś napr. "Pračavaŭ jeść bahatyj u sabrańni skarbaŭ, i ŭ adpačynieńni svajem napoŭnien budzieć dabra svajaho. Popiečesia ubohij o małaści pažyŭleńnia svajeho i napakoi niščy byvajeć".

Majucca i vieršavanyja miescy ŭ BIBLII Skaryny.

"Bohu ŭ trojcy jedzinamu ko čci i ko słavie,
Maciery jaho pračystaj Maryi k pachvale,
Usiem niebiesnym siłam i śviatym jaho k viasiellu,
Ludziam paspalitym k dobramu naučeńniu."

Jak bačym BIBLIJA Skaryny, jak litaraturny tvor na zrazumiełaj litaraturnaj movie z nakiravańniem da žyvoj narodnaj kryvickaj movy, tvaryła asnovy dla narastańnia i raźvićcia litaraturnaha pracesu, jaki praz druk dachodziŭ da šyrokich masaŭ narodu. Śladami Skaryny pajšoŭ Symon Budny, Vasil Ciapinski, a za imi całaja plajada piśmieńnikaŭ, vučonych palemistaŭ, historykaŭ, paetaŭ - vynik šmatlikaha skolnictva, refarmacyjnaha i vunijnaha ruchu, drukarstva i dziaržaŭna-ekanamičnaha uzdymu krainy. Narodnaja kryvickaja mova poŭnaściu stałasia movaj litaraturnaha pracesu ŭsich jahonych napramkaŭ: u jurydyčnych aktach, u chronikach i histaryčnych tvorach, u relihijnym i kulturnym žyćci dy ŭ mastackaj litaratury. "Ruskim" u hetaj li-

---------

źviary chadziaščyja ŭ pustyni znajuć jamy svaja; pcicy latajuščyja pa vozduchu viedajuć...ab

taraturnaj starabiełaruskaj movie adno astavaŭsia tradycyjny niefanetycny pravapis i niekatoryja trafaretnyja vyražeńni (na padabienstva łacinskich u zachodniaj litaratury) dziela zachavańnia tradycyjnaha kalarytu. Nazyvać hetuju movu "hibrydam", "gmatwaninaj dwujęzyków", jak heta robić A. Adamovič, ničoha bolš nie značyć, jak niaviedańnie hetaj movy, jak błytańnie mnohich rečaŭ, nazvanych adnym šablonam. Voźmiem dla prykładu rad uryŭkaŭ z roznych tvoraŭ, kab ścvierdzić u našaj litaraturnaj movie XVI-XVII vv. kryvickuju moŭnuju stychiju.

Z litoŭskaha letapisu Bychaŭca (XVIv.)

"A kali tyje hości u vielikaho kniazia Vitaŭta byli, i kniaź vieliki Vitaŭt dastatak davaŭ im vialiki, i vychožyvało na nich abrokaŭ na koždy dzień miodu sučanaho siem sot bočak, akrom muskatel(u); i vin i malmaziej, i innych piciej razmaitych; a jałavic siemsot, baranoŭ, viepraŭ siemsot, žubrej pa šeśćdziesiat, łosiej pa stu, kromie innych razmaitych źvieryn i innych mnohich mias i damovych patreb, i dzieržaŭ tych haściej vialiki kniaź Vitaŭt u siabie siem niadziel."

Z letapisca Vialikich Kniaziej Litoŭskich (XVv.)

"Hdzie-ž adno kniaža rymskaje imieniem Palemon, katoryj ža caru Neronu byŭ kreŭnyj, zabraŭsia z žonaju, i z dziećmi svaimi, i s poddanymi, i skarby svaimi, s katorym to kniažaciem piaćsot šlachty, takža z žonami, i z dziećmi i z mnohimi siłami, i uziaŭšy z saboju adnaho astranoma, katoryj sia znaŭ pa źviezdach, i pašli ŭ karabloch morem pa zachodu sołnieca, chocieČy sabie znajci na ziamli miestca słušnaje, hdzie by sia mieli pasialici a miaškaci s pakojem..."

Z Barkułabaŭskaha letapisu (kaniec XVI v.)

"A kali tot nachod u varot, albo ŭ domu ŭ kaho stojačy chleba prasili, aciec s synam, syn s atcom,

matka z dočkaju, dočka z matkaju, brat z bratam, siastra z siastroju, muž z žanoju, tymi słovy movili silnie, śłoźnie, horko, movili tak: "Matuchno, paniuško, spadarynia, sołnce, miesiac, źviezduchno, daj krošku chleba"...

Z pradmovy Symona Budnaha da KATACHIZISA (1562)

"K tamu též i dla taho, aby sia vašy kniažackija miłaści nie tolka ŭ čužaziemskich jazyciech kachali, ale by sia též vašy kniažackija miłaści i taho zdaŭna słaŭnaha jazyka słavienskaha raźmiłavaci i onym sia bavici ràčyli. Słušnaja bo reč jest, aby vašy kniažackija miłaści taho narodu jazyk miłavaci ráčyli, u katoram daŭnyje predki i ich kniažackija miłaści panovie atcy vašych kniažackich miłaści slaŭnie pradniejšyje prełaženstva niasuć..."

Z pradmovy V. Ciapinskaha da EVANHIELLA (1570-80)

"Rad pakažu maju vieru, katoruju maju, a złašča narodu svajemu ruskamu. Tyja jaje onym daŭnym viekam słaŭnaju, predkaŭ svaich umietnościu, pakornie jako daŭnimaju, paćvierdziać, a jeśli jeść u čom błudna, any to papraviać: viedź ža dzieržu nie inačaj, adno z Evanhelii, ad Boha čeraz Chrysta pana i jaho apostałaŭ podanaje, katoraja jeść suma zakonu božaho, katoraja z słavienskaho aby im tož i ich ułasnym jazykom ruskim u druku vyšła..."

Z dzionnika Jeŭłašeŭskaha (1603)

"Roku 1568 pa sojmie Grodzienskom i pa zjeździe voinskom jechaŭ karol, jaho miłaść da Lublina dla skančeńnia unieji. Atkul roku 1569, na druhoj niedzieli postu vielikaho, panovie senatary litoŭcy, bačačy viele rečej sabie praciŭnych, atjechali byli z Lublina..."A prad tym jašče ziamla Kijeŭskaja Vałynskaja i Padlaŝskaja da karuny prysužany i spisami pryłučany byli..."

Z poviešci ALEKSANDRYJA (17 st.)

"Patom Aleksandar vyšaŭšy z Karyntu pryšoŭ da miesta imieniem Plateja, katoraha kniastva užyvaŭ niekatory imieniem Straksahon. Ušedšy tam Aleksandar da bažnicy Dyjany našoŭ tam pannu, katoraja była papom, i ŭ adziehniu papoŭskom chadziła, katoraja uzreŭšy jaho rekła jamu: pazdaroŭlen budź Aleksandra, ščaślivaje tvaje pryjechańnie, ty maješ vieś śviet pad svajo panstvo padbić..."
(Maskoŭski śpisak).

"Inšaho dnia Aleksander siedziačy na majestacie, kazaŭ Raksanie, dačce Daryja prad abličnaść svaju pryjci, katoraja karonu załatuju z kamieńniem kaštoŭnym na haławie mieła, katoruju vodłuh abyčaju perskaha uziaŭ za žanu. A kazaŭ jej podle siabie na stolcu załatom siadzieć i razkazaŭ aby jak carevaja at usich była šanovana..."(Leninhr. śpisak).

Z pradmovy da Litoŭskaha STATUTU L.Sapiehi1588.

"A jeśli katoramu narodu ŭstyd praŭ svaich nie ŭmieci, pahatoviu nam, katoryje nie občym jakim jazykom, ale svaim ułasnym prava śpisanyje majem i koždaho času čaho nam patreba ku atporu ŭsiakaje kryŭdy viedaci možam..."

Artykuł 2 Statutu 1588: "My haspadar šlubujem nikoha nie karaci na zaočnaje paviedańnie, chacia by datykała sia majestatu našaho haspadarskaho abražannia abo zdrady rečy paspalitaje. A chto by tož na kaho što nie spraviadlivie ŭ tych rečach vioŭ, akoła abražańnia majestatu nasaho haspadarskaho abo zdrady rečy paspalitaje, a nie davioŭ, tym sam karàn byci majeć."

Z APOKRYZISA Chrystfora Filareta (1599)

"...Adnymi ž zaŭsiahdy, adnaka patužnymi, adnaka chvału božuju miłujučymi i jednakova tyranavi tureckamu niechutlivymi bylišmy, jesteśmy i bu-

